№ 46. Ausgabe B.

# ГОМАН

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакцыі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23.

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты:
на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Цэна абвестак:
на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі—25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці—60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 46 (138). Год II. Вільня, 8 чэрвеня 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## Баталія у Бэльгіі.

### 7 чэрвеня.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: Між Іпрам і Армант'ер, пасьля найвялікшай сілы барабаннаго агня сягоньня ранiцай пачалася поўным ходам баталія у Фляндрыі. Ад каналу Лябассэ да Скарп трывае агонь з незвычайнай сілай. Пры Ільліш, Лёс, Льевэн і Рэ сягоньня ў досьвітках адбіты чысьленые штурмы англічан.

*Фронт нямецкага Насьледніка:* Сягоньня на раніцы нашы палкі здабылі пазыцыі ворагоў пры Шмэн дэ Дам на шырыні каля 2 кілём. Сільные контратакі ворагоў, трываўшые да ночы, адбіты. Узяты 14 афіцэроў, 543 салдаты, рэвольвэрная гармата, 15 кулемётаў і некалькі гранатомётаў. Збіты 8 англіцкіх самалётаў.

**На другіх фронтах і тэатрах—** нічога выдатнаго.

---

ШТОКГОЛЬМ. «Нов. Вр.» с пэўнай крыніцы даведалося, што прыйшоў **адказ** на прэдлажэньне тымчасоваго ураду, трэбаваўшаго выяўленьня **ваенных мэт саюзьнікоў**. Адказ гэты—ад Англіі, Францыі і Амэрыкі (аб Італіі не ўспамінаюць)—мае ў сабе, наагул, тыеж аснаўные пункты, якіе саюзьніцкіе міністры высказывалі у сваіх прамовах. **Формула: мір без аннэксій і контрыбуцій і самаапрэдзеленьне нацыональнасьцей—прынята.** Праўда, рознае разуменьне гэтай формы творыць грунт дзеля спорак. Гэтак за найважнейшы пункт лічыцца жаданьне адбудовы Бэльгіі і звароту ей страт.

З гэтай прычыны «Нов. Вр.» кажэ, што Расея, на жаль, знаходзіцца ў такім палажэньні, што ня можэ забаспечыць выпаўненьня новых умоў. Нават у часі апошніх перэгавораў аб гэтай справе адзін урад заменен другім, і ніхто ня можэ прарочыць, сколькі ешчэ будзе новых правіцельств.

ПЕЦЯРБУРГ. На заседаньні рады раб. і салд. 4 чэрвеня Керэнскій апраўдываў сваю і Алексеева прамовы аб падгатоўцы наступленьня. Між іншым, ён сказаў: „Мы маем право думаць, што нямецкіе імпэрыалісты скарыстаюць з разстройства нашай арміі, каб павялічыць свае дамаганьня, і здаецца, што нямецкі урад ідзе сьледам за імпэрыалістамі. Поўная баевая гатоўнасць арміі канечне патрэбна дзеля таго, каб дайсьці міра без заваеваньнёў і контрыбуцій“.

ПЕЦЯРБУРГ (Рэўтэр). Гэндэрсон, Тома і Вандэрвэльдэ высказалі на пісьме камітэту рады раб. і салд. сваё здзіўленьне с прычыны сазыву міжнароднай конфэрэнціі. Дапушчэньне на конфэрэнцію нямецкіх соцыалістоў — шкоднае, пакуль ня будзе зьнішчэн іх ваяўнічы імпэрыалізм.

ЖЭНЕВА. Абурэньне французскіх соцыалістоў і іх газэт на пецярбурскую раду раб. і салд. дайшло такой меры, што пачуцьцё саюзьніцкай вернасьці у іх занікло. Некаторые газэты йдуць гэтак далёка, што заяўляюць, бытцым рада работнікоў і салдатоў атрымлівае пэнсію ад нямецкаго ураду.

ЖЭНЕВА. «Temps» даносіць аб **вялікіх пажарах** у розных губэрнях Расеі, асабліва ў Мінскай, дзе выгарэло 7000 дзесяцін лесу, ды ў ваколіцах Саратова, дзе згарэло каля 3 мільёнаў асьмін збожжа.

ШТОКГОЛЬМ. Каля Рыгі нідаўна была сур'ёзная **стычка між расейскім войскам і латышскімі легіонерамі**. З абодвых бакоў ёсць раненые. Гэта ўжо ня першая стычка між салдатамі розных нацыональнасьцей. Латышскі легіон бытцым-то ня хочэ слухаць вышэйшай каманды, каторая не ўважае праў латышскаго народу і паступае з мейсцовым народам вельмі неуважліва.

КОПЭНГАГА. Вядомы чэскі агітатар, праф. Масарык, каторы называе сябе маршалкам камітэту чэскіх зямель у Парыжы, прыехаў у Пецярбург, каб вясьці перэгаворы аб чэска-словацкім пытаньні. У доўгай тэлеграмі у «Times» ён, між іншым, кажэ:

„Саюзьнікі павінны лічыцца с самым горшым і ў найлепшым прыпадку спадзевацца адно на тое, што расейская армія удзержыцца на сваіх пазыціях і гэтак звяжэ часць варожых сіл. Жоффр і Пэтэн правільна аценілі палажэньне, калі дамагаліся пасылкі у Эуропу часьці амэрыканскіх войск. Вайна павінна вясьціся з найвялікшай сілай на французскім, італьянскім і македонскім фронтах. Там, а не на заходзі будзе развязка вайны“.

ШТОКГОЛЬМ. Перэсяленьне с Сібіру ў сярэдзіну Расеі ад часу рэволюцыі дайшло такой меры, што правіцельство маніцца выдаць закон, забараняючы перэселяцца. У Сібіры ёсць цэлые вёскі і нават мястэчкі, пакінутые жыхарамі.

---

*Вільня, 8 чэрвеня.*

Место—гэта цэнтр жыцьця старонкі, гэта пункт, дзе найбольш ярка выяўляюцца сілы краю, яго думкі, ідэалы, настраеньня. Место—гэта цэнтр культурнай работы народу, і паводлуг таго, што робіцца ў местох, людзі судзяць аб усей старане.

Тым большую вагу мае ў жыцьці кожнай старонкі яе сталічнае место—цэнтр ня толькі культурнай работы, ня толькі грамадзкаго жыцьця, але і цэнтр дзержаўны, адміністрацыйны і палітычны.

Сталічнае место нашаго краю: ўсяе Беларусі і Літвы—гэта Вільня. Паводлуг віленскіх адносін людзі са староны судзяць і аб усей нашай Бацькаўшчыне. Але ў гэтым прыпадку прысуд гэны—зусім абмылковы.

Вільня не адбівае ў сабе жыцьця ўсяе старонкі. Стоючы на самым краю этнографічна-беларускіх зямель, пры граніцы, якая разздзеляе два братніе народы: беларусоў і літвіноў, Вільня ня можэ быць названа ані нацыональна беларускім, ані нацыональна літоўскім местам. Гэта—бытцым кацёл, у каторым гатуюцца разам як беларускіе і літоўскіе культурные цэнасьці, прынесеные сюды з вёсак, так і цэннасьці ад вякоў наплываўшых сюды і аседаўшых жыдоў і палякоў. З гэтай мешаніны творыцца нешта зусім новае, толькі прыбранае ў зверхную апратку жыдоўскай і польскай мовы. І той, хто аднастаронна і абмылкова судзіць аб нацыональнасьці толькі паводлуг мовы, лёгка робіць з гэтаго вывад, бытцым Вільня—место польска-жыдоўскае. Сьляпы: ён не бачыць, с чаго складаюцца нашы культурные цэнасьці, выражэные у слове папольску ці па жыдоўску!..

Аб нацыональным характэры места судзяць яшчэ і паводлуг таго, хто мае над ім уласць, хто кіруе яго жыцьцём. І гэта адзнака ў Вільні гаворыць на карысць палякоў, даючы ім перэвагу ня толькі над беларусамі і літвінамі, але і над жыдамі. Ды лёгка зразумець, што яна так сама пустая, як першая. Зразумеем гэта, калі прыпомнім дзьве рэчы: адну—што расейскі закон аб выбарах у местовые рады даў права выбіраць і быць выбраным толькі асобам, якіе ў горадзі маюць свае дамы або пляцы, выключаючы з гэтаго жыдоў; другую—што між дамаўласьнікамі-хрысьціянамі перэважываюць у нас палякі, каторые гэтак і сталіся поўнымі гаспадарамі ў сталіцы Беларусі і Літвы, Вільні.

Вайна — побач з усімі сваімі страшэнствамі—прынесла с сабой дзьве дужа важные навіны: яна падняла ва ўсім аб'ёмі справу нацыональную, апавесьціўшы прынцып вызваленьня нацыональнасьцей, і выявіла праўдзівае мейсцо у грамадзянскім жыцьці працоўнаго народу, сулячы яму новую, ясьнейшую долю. І чым-бы ні скончылася вайна, мы можэм верыць, што стары грамадзкі лад ужо ня вернецца.

Ня вернуцца старые адносіны і ў сталіцы нашаго краю. «Нізы» народные, массы работнікоў, рамесьнікоў і іншых «безцэнзовых» працаўнікоў здабудуць належны ім голас, і местовая гаспадарка з рук жмені камянічнікоў-палякоў пэройдзе ў рукі дэмократыі ўсіх нацыональнасьцей, пражываючых у Вільні. Тады прыйдзе час і для нашых беларусоў, каторые дагэтуль былі адсунуты ад усяго, і яны ў чыннай рабоці дзеля агульнай карысьці заявяць аб сваім істнаваньні. Парукай гэтаму—тое, што ў найгоршых нават часах, не маючы сваіх заможных становоў, не маючы ніскуль ніякай падмогі, беларусы здалелі наладзіць у Вільні свае школы, вучыцельскіе курсы, прэссу, экономічные організацыі, народны тэатр, клюб і т. п.—і, с прыходам лепшых часоў, с паваротам цэлай массы старых беларускіх грамадзкіх работнікоў, на створэных за час вайны асновах у сталіцы нашаго краю жыва закіпіць беларуская культурна-нацыональная і экономічная работа.

Абы толькі мы здалелі перэтрываць найцяжэйшые дні, абы хапіло сілы грамадзе новых работнікоў на беларускай ніве, каторая с кожным днём становіцца ўсё болей чысьленай!

---

## Беларускі тэатр.

Вайна кепска адбілася на ўсіх праявах культурнаго жыцьця нашаго краю наагул, а асабліва на жыцьці беларускаго тэатру.

Адбываўшыеся перш ад часу да часу тэатральные прэдстаўленьня ў Вільні перэпыняюцца, і вось толькі 15 кастрычніка 1916 г. мы бачым пасьля даўжэйшаго перарыву першае прэдстаўленьне адраджаючагося ізноў тэатру: у салі Работніцкаго Клюбу артысты-аматоры ігралі «Хама», перароблку с повесьці Э. Оржэшковай. 5 лістапада у той-жэ салі адбылося другое прэдстаўленьне, на каторае зложыліся: драма ў 1 акце «У зімовы вечар» і камэдыя ў 1 акце «Міхалка». Тые-ж п'есы былі пастаўлены і ў пажарніцкім клюбе. На сьвята Каляд беларуская драматычная дружына наняла памешчэньне цырка, гдзе

тое, што яму нічога не далі, падпаліў хату гаспадара Сідарчука. Хата, абора, сьвіран і ешчэ дзьве будоўлі згарэлі да тла. Падпаліўшый Ігнат Фарыновіч арэштоеан.

ТАБОЛЬСКАЯ БУДКА. У тутэйшых ваколіцах узняўся пажар у лесі, аднак стараньнямі тутэйшых жыхароў яго хутка ўдалося затушыць.

КРАЎЧУНЫ, Вілковіск. павету. Адзін тутэйшы хлебароб за укрываньне старой стрэльбы, з якой ён стрэляў варон, засуджэн акружным судом на 3 гады ў папраўчы дом.

АЎСТОКАНЕ, Сэйнэнск. пав. Чацьвёра тутэйшых селян за прадажу каней без пазваленьня засуджэны заплаціць штраф грашмі.

КЛЕЙВЫ. За прадажу каней бéз пазваленьня kreishauptmanna акружны суд аштрафаваў 2 тутэйшых селян.

# Рэволюцыя у Расеі.

ПЕЦЯРБУРГ. Спаўніцельны камітэт рады раб. і салд. друкуе адозву да ўсіх соцыялістычных партый і саюзоў сьвету, гаворучы:

„Рада раб. і салд. пераконана, што агульные інтэрэсы работніцкіх масс і ўсяго чэлавечэства памогуць скарэй дайсьці канца вайны і устанавіць мір. Зрабіць гэта можэ толькі соцыал-дэмократія пры супольных стараньнях работніцкіх організацій ваюю‹ч›ых і нэутральных старон. Перпы крок дзеля гэткаго міжнароднаго руху—гэта **склікаиьне конфэрэнціі ўсіх дзержаў**. Партыі і організаціі, каторые дзержацца тэй жэ думкі, што і мы, прызываюцца прыняць учасьце ў конфэрэнціі. Рада раб. і салд. прэдлагае на мейсцо для конфэрэнціі выбраць Штокгольм, а час—між 28 чэрвеня і 8 ліпня старога стылю“.

ПЕЦЯРБУРГ. Рада раб. і салд. у сваім прызыве на Штокгольмскую конфэрэнцію заявіла, што спадзяецца, што запрошэные організаціі парупяцца аб тым, каб прынятые там пастановы былі праведзены ў жыцьцё.

ШТОКГОЛЬМ. Стороннікі партыі «большэвікоў» адмаўляюцца ехаць на конфэрэнцію, на якой будуць Шэйдэманн і Комп. Партыя расейскаго пролетарыату паедзе толькі на конфэрэнцію с такімі партыямі другіх старон, каторые у сябе дома змагаюцца за ўласць пролетарыату.

БЭРЛІН. «Politiken» даносіць с Пецярбурга **аб выкрытай змові**, каторая мела на мэці зрабіць контррэволюцію і пазабіваць вышэйшых адміністратароў, у тым ліку Керэнскаго. Арэштавалі рад асоб.

АМСТЭРДАМ. Буржуазыйная прэсса ў Расеі ўсё болей і болей цьвёрда дамагаецца аддачы ўласьці „сільнаму чэлавеку“ **Толькі дыктатар** можэ выратаваць Расею.

ЛОНДОН. Пецярбурскі карэспандэнт «Morning Post» даносіць:

Пасьля 10-дзённаго сьвяткаваньня здабыцьця волі ў Расеі будзіцца сьвядомасць, што ворагі стаяць ешчэ глыбока ў старане. **Расейская рэволюція — гэта рэзультат нямецкіх інтрыг**. Дзеля таго, каб дайсьці сваіх эгоістычных мэт, Нямеччына ў той жэ час працавала з расейскімі рэакцыонерамі і з радыкаламі.

ШТОКГОЛЬМ. Па ўсей Расеі ідзе энэргічная **пропаганда за мір**.

20% усіх пецярбурскіх фабрык зачынены.

Салдаты ў Выборгу прынялі рэзолюцію, жадаючы міра ўраз-жэ.

Рада раб. і салд. ў Кіеві паслала радзе міністроў тэлеграму, паведамляючы, што ў Кіеві спадзяюцца голаду.

ШТОКГОЛЬМ. З розных ваколіц Расеі даносяць аб перамені паглядоў грамадзянства. Значнае число грамадзкіх дзеячоў, каторые не дапушчэны да ўласьці, маняцца **палажыць канец панаваньню соцыялістоў** і утварыць новы урад с **сільным нахілам да монархіі**. У Пецярбурзі думаюць, што да гэтаго прыкладае руку **англіцкі пасол**. З гэтай прычыны Керэнскій 21 мая быў у Буканэна, с каторым вёў гутарку, трываўшую некольні гадзін.

Газэта гэльсінгфорскай рады раб. і салд. «Ізвестія» друкуе стацьцю пад загалоўкам: „**Дзеля каго ваюе Расея?**“ Тамака гаворыцца: „Расея ваюе не дзеля заваеваньнёў для сябе, бо ад іх адраклася, а дзеля саюзных імпэрыялістоў, асабліваж для Англіі.“

ШТОКГОЛЬМ. На з'ездзі дэпутатоў армій палудзенна-заходняго фронту ў Каменцы-Падольскім усемі галасамі прынята рэзолюція з жаданьнем устроіць у Расеі **дэмократычную рэспубліку без прэзыдэнта**. Прэдлажэньне **фэдэрацыйнай рэспублікі адкінуто**.

У Костроме 15 соцыялістычных організацій округа сазвалі з'езд, каторы адбывае патайные нарады.

ПАРЫЖ. Пасьля бурнаго заседаньня ваеннаго афіцэрскаго камітэту пад маршалкоўствам Гучкова **члены-трудавікі** заявілі, што **выступаюць с камітэту**.

Міністры Чэрнов і Цэрэтэлі выехалі у Кронштадт дзеля перэговораў с тамтэйшай радай раб. і салд.

У Кронштаці адбылася вялізарная дэмонстрація за супольные выступленьня з міжнародным соцыялістычным камітэтам у Бэрне. Робэрта Грімма і Анжэліку Балабанову віталі клікамі.

ПЕЦЯРБУРГ. Спаўніцельны камітэт рады раб. і салд. прыняў рэзолюцію, прызнаваючы неправільным жаданьне Кронштацкай рады раб. і салд. выступаць зусім незалежна, бо выступленьне проці ядынай цэнтральнай рэволюцыйнай уласьці ў Расеі вядзе да анархіі.

ПЕЦЯРБУРГ. Устаноўчы сэйм пастановіць **конфіскаваць удзельные, манастырскіе** і вялікіе дворные землі. Дзеля падгатоўкі да гэтаго кроку, урад забараніў прадаваць, купляць і здаваць у арэнду паменёные землі.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). **Алексеев падаўся у адстаўку**. Вярхоўным глаўнакамандуючым **назначэн Брусілов**. На палудзенна заходнім фронці яго замяніць Гурко.

ШТОКГОЛЬМ. Адстаўка генэрала Алексеева — гэта рэзультат яго заявы на з'ездзі дэпутатоў с фронтаў, што мір без аннэксій і контрыбуцій — гэта утопійная фраза.

ПЕЦЯРБУРГ. Міністэр таргоўлі **Коновалов выйшоў у адстаўку**. Намесьнік яго яшчэ невядомы.

Адстаўка яго тлумачыцца яго прамовай, у каторай ён сказаў, што правіцельство не мае права занімацца толькі справамі работнікоў.

ПЕЦЯРБУРГ. На апошнім заседаньні рады міністроў, Коновалов, заяўляючы аб сваей адстаўцы, сказаў, што трэба ждаць наладжэньня **чыста соцыялістычнаго правіцельства**

ПАРЫЖ. Французскі дэпутат і быўшый міністэр Нулян назначэн за французскаго пасла ў Пецярбурзі.

ЖЭНЕВА. Пасьля разрухоў у расейскім войску у Франціі Керэнскій тэлеграмай загадаў разстрэліваць ўсіх бунтаўшчыкоў.

АМСТЭРДАМ. Сьпешная падарожа англіцкаго міністра працы, Гэндэрсона, мае на мэці недапусьціць апублікаваньня тайных умоў Расеі с саюзьнікамі.

ШТОКГОЛЬМ. Прыежджаючы у Архангельск, падарожные, нават расейскіе падданые, павінны паказваць свае пашпарты англіцкім кантралерам. Число англіцкіх афіцэроў у Архангельску даходзіць 60, а салдатоў—2.000.

На нарады англіцкіх ваенных у Архангельску расейцоў ніколі не запрашаюць

ШТОКГОЛЬМ. С прычыны новаго выпуска дзержаўным банкам паперовых грошы на 2 мільярды «Бірж. Вед.» пішуць, што апошняя пазыка дае магчымасць **ваеваць толькі тры тыдні**.

Апошнім загадам право выпускаць паперовые грошы ад пачатку вайны павялічэно да 8 мільярдоў 800 мільёнаў руб.

ЛОНДОН. С Пецярбурга даносяць, што тамака вуліцы заўсёды напоўнены массамі народу. Перад крамамі стаяць доўгіе чароды; шмат хто становіцца ў чарод ешчэ ў начы. Число грабежств узрастае

ШТОКГОЛЬМ. Паводлуг вестак з Расеі, тамака значна узрасло число праступнікоў. У вялікіх местох яно становіць 10% жыхароў.

На адкрыцьці трэйцяго з'езду ваеннай прамышленасьці 29 мая міністэр прамышленасьці Коновалов, заявіў, што ў Расеі **німа праўнаго ладу**. Усюды пануе развал творчых сіл. Пасьля упадку царызму ждалі шыбкаго пад'ёму; а сягоньняшні кліч — „ратуйце бацькаўшчыну ад нэндзы“. Расейскіе купцы—на краю банкруцтва, а работнікі—бяз хлеба.

Рада раб. і салд. за гэту прамову патрэбавала адстаўкі Коновалова, каторая яму дадзена.

# З усяго сьвету.

ШТОКГОЛЬМ. Прыехалі **прэдстаўнікі большасьці нямецкай соцыялістычнай партыі** з галавой сваім Шэйдэманам.

Грімм, маршалак міжнароднаго соцыялістычнаго камітэту ў Бэрне, паслаў соцыялістычнай організаціі у Лідс гэткую тэлеграму: „Мы сэрдэчна жадаем вам удачнай працы, змагаючыся **проці вайны, імпэрыялізму і капіталізму** і за міжнацыональную еднасць соцыялізму!“

ПЕЦЯРБУРГ. Пачаліся нарады голандзкаго соцыялістычнаго камітэту з дэлегатамі нямецкай соц.-дэм. партыі (—большасьці).

ЛІДС. Тут адбыўся сход, на каторым было 1.100 крайніх соцыялістоў, каб **вітаць рэволюцію ў Расеі**. Прачыталі тэлеграму пецярбурскай рады раб. і салд. і віталі яе мірную палітыку без аннэксій і контрыбуцій. Пастаноўлено наладзіць **раду раб. і салд. і ў Англіі**.

ГААГА. За прэзыдэнта **англіцкай рады раб. і салд.**, організованай па прыкладу расейскай, выбран маршалак капальняных работнікоў, Смайль. Новаиаладжэная рада раб. і салд. у Англіі адзначывае сабой пачатак сільнаго руху да міра у англіцкім народзі, які дагэтуль слухаў шовіністоў.

Соцыялістычны сход у Лідсу 3 чэрвеня прыняў гэткую рэзолюцію:

„З'езд прызывае англіцкі урад высказаць ураз-жэ сваю згодлівасць з ваеннымі мэтамі дэмократычнаго ураду Расеі. З'езд дамагаецца агульнай амнэстыі для праступнікоў палітычных і рэлігійных і звальненьня рабочаго стану ад уселякіх агранічэньнёў. З'езд прызывае да ладжэньня усюды рад раб. і салдатоў дзеля зашчыты асабістай і грамадзкай волі і змаганьня са спэкуляціей на прадуктах.

ПАРЫЖ. «Journal» даносіць, што французскіе соцыялісты лічаць зусім **немагчымым ехаць у Штокгольм**. Яны адмаўляюцца ехаць у Пецярбург і вясьці перэговоры з Брандінгам.

ЖЭНЕВА. **Агітація проці прэзыдэнта Пуанкарэ** у Франціі у апошнім часі мае характэр, каторы робіць правіцельству многа клапотаў

ПАРЫЖ. **Забастовачны рух у Франціі шырыцца** ўсё болей.

Служачые на парыжскім падземным трамваі, на омнібусах і трамваях кабеты, жалезнадарожнікі, работнікі транспортных таварыств, работнікі-шаўцы ў Ліоне і Німе, партовые работнікі, мэталісты і чысьленые групы работнікоў у Марсэлі і Руане часьцю бастуюць, часьцю—маняцца забаставаць, калі іх дамаганьня павялічыць заработную плату і паменшыць рабочы дзень ня будуць споўнены.

НЬ'Ю-ІОРК. С прычыны адмовы амэрыканскаго ураду выдаць пашпарты соцыялістам дзеля падарожы у Штокгольм 69 соцыялістоў падалі запрос ураду у Ніжнюю палату.

ЛОНДОН. Аўстралійскі міністэр-прэзыдэнт Гігс сваім праектам завясьці агульную ваенную павіннасць вызваў ненавісць між работнікамі. У цясьнейшым з'еднаньні з Англіей аўстралійскіе работнікі бачуць падчыненьне Аўстраліі англіцкай плютократіі.

ХРЫСТЫАНІЯ. **Офіцыяльна**. Нямецкі пусты параход «Гамма», едучы з Эмдэна ў Гарвіг з норвэжскім лоцманам, задзержан у норвэжскіх водах трэма англіцкімі ваеннымі параходамі. Капітан «Гаммы» пакіраваў яе на мель. Тады англіцкіе ваенные параходы пусьцілі ў «Гамму» 4 торпэды і некольні гранат. **Норвэжскі пасол у Лондоні** атрымаў загад падаць **англіцкаму ураду пратэст** проці гэтаго.

ВЕНА. Ладзяцца **зносіны па паветры паміж Гамбургам і Константынополем** — на адлегласьці 2.800 кілём. Агульны кошт намечэн больш за 40 мільёнаў марак.

ГОНКОНГ. У паўночным і сярэднім **Кітаі** узнялося сур'ёзнае **паўстаньне**. Да паўстанцоў далучылася вялікшая часць **арміі**. Большая часць ваенных губэрнатароў аб'явілі сябе незалежнымі.

# ТЭЛЕГРАМЫ.

**Нямецкіе апавешчэньня:**

**5.VI. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: Палажэньне на фронці Фляндрыі — без перамен. У завароці Вітчэта і на суседніх адрэзках артылерыйская бітва даходзіць найвялікшай сілы. Наступленьня англічан на узбярэжжы мора, на каналі Лябассэ і ўздоўж дарогі Бапом — Камбрэ нічога не дайшлі.

*Фронт нямецкаго Насьледніка*: Уздоўж Эн і ў заходняй Шампані ізноў крапчэла артылерыйская бітва. Пры Брэ дзьве французкіе атакі ў начы адбіты з вялікімі стратамі.

У бітвах на паветры і стрэламі з зямлі ўчора збіты 12 варо-

жых самалётаў і артылерыйскім агнём 1 лятучы шар.

Лейтэнант Фосс збіў свайго 32-га, лейтэнант Шэфэр — свайго 30-го, лейтэнант Альмэнрэдэрн — 24-го ворага.

**Усходні тэатр:**

Без выдатных прыпадкоў.

**6.VI. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* Артылерыйская бітва на адрэзку Вітчэта трывала далей. Сільные разведкі ворагоў адбіты. У вечары і ў начы крапчэў бой на узбярэжжы мора і на фронці Артуа. З наступленьнем ночы англічане вялікімі, густымі массамі пайшлі ў атаку на паўночным беразі Скарп. Між Гаврэль і Фампу ворагі адкінуты з вялікімі стратамі баварскімі палкамі. Далей на поўдні яны ўварваліся на нашы пазыціі ля вагзалу Рэ; за невялікую частку акопаў тамака йшчэ йдзе бітва.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Пры Шмэн дэ Дам і ў заходняй Шампані крапчэла работа артылерыі. У начы французы трэйці раз атакавалі пры Брэ. Яны адбіты з вялікімі стратамі. Гэтак сама адбіта з вялікімі стратамі атака проці Зімовай гары, ведзеная вялікімі сіламі.

---

Адна з нашых лятучых эскадр кінула 5.000 кілёгр. бомб на Шірнэс (у усьці Тэмзы).

У чысьленых бітвах на паветры ворагі утрацілі 11 самалётаў.

**Усходні тэатр:**

На усходнім і Македонскім фронці—ад часу да часу агонь і стычкі патрулёў.

На левым беразі Струмы англіцкіе лятуны кідалі бомбы дзеля падпалу на дасьпеваючае збожжэ.

---

## Аустрыяцкіе апавешчэньня.

ВЕНА. 4. VI. **Італьянскі тэатр:** На ўсходзі ад Гэрцу ворагі некольki разоў памыкаліся адабраць у нас здабытые намі пазаўчора акопы. Усе атакі былі дарэмны. Наша дабыча дайшла да 11 афіцэроў, 600 салдатоў і 9 кулемётаў. Пры Файті Грыб мы ўзялі ў палон 330 італьянцоў. Пры Арко, ў палудзенным Тыролі, збіт варожы марскі самалёт.

---

Страты італьянцоў у дзесятай баталії на Ізонцо—вялікшые, чым усе ранейшые страты ў часі штурмоў. За 19 дзён баталії мы бачылі больш за 35 італьянскіх дывізій у першай лініі,—значыць, на фронці 40 кілём. шырокім білося больш паловы ўсей італьянскай арміі. Страты італьянцоў напэўна больш за 160.000 душ. Апрыч таго, мы ўзялі ў палон 16.000 душ. Гэткую цану заплацілі ворагі за здабыцьце гары Кук і руін вёскі Ям'яно.

ВЕНА. 5.VI. **Італьянскі тэатр:** На поўдні ад Ям'яно нашы войскі контратакаю адабралі у італьянцоў назад значную часць утрачэных намі два тыдні таму назад акопаў. **Чысло** ўзятых учора ў палон італьянцоў даходзіць 171 афіцэроў і 6.500 салдатоў. Агульнае чысло палонных ад пачатку дзесятай баталії на Ізонцо даходзіць гэтак 22.000.

---

У начы с 3 на 4 чэрвеня у паўночнай часьці Адрыатыцкаго мора варожая падводная лодка затапіла адну з нашых мінаносак. Большая часць людзей выратована.

ВЕНА. 6. VI. **Усходні тэатр:** Учора ворагі марнавалі свае сілы ў дарэмных штурмах між далінамі Віппаха і морам. Нашы войскі здабылі штурмам адну вяршыну каля Ям'яно і утрымалі яе ў сваіх руках, ня гледзячы на вострые бітвы. За апошніе тры дні ўзяты ў палон 250 афіцэроў і 10 000 салдатоў. Некаторые італьянскіе палкі цэлком папалі ў нашы рукі. Гэтак, полк 86—з 2625 салдатамі, 69—с 1932, 71—с 1831. Поле бітвы засыпано італьянскімі трупамі. У месячную ноч італьянцы зрабілі набег да Лейбаха і Боцэна.

---

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

БЭРЛІН. (В. Т. Б.). У апошніе тры дні нашы лятуны скінулі **25.823 кілёгр. (1550 пудоў) бомб.**

БЭРЛІН (В.Т.Б.). Моніторы ворагоў 5 чэрвеня абстрэлівалі Остэндэ, забіўшы многа бэльгійскіх жыхароў і зруйнаваўшы некольki дамоў. Адзін з нашых вартаўнічых мінаносцаў, пасьля упорнай бітвы, затоплен. Часць людзей удалося выратаваць.

БЭРЛІН. (В. Т. Б.). Ля заходняго берагу Ірляндії і ў канали затоплено 18.000 тонн.

БЭРЛІН. (В.Т Б.). У поясе блокады навакол Англії ізноў затоплены 4 параходы і 2 парусьнікі.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). У Атлянтыцкім акіані падводные лодкі ізноў затапілі 22.000 тонн.



# Спісак беларускіх кніжак.

Ведаючы цану кнігі, найлепей прысляць грошы наперад — гэтак таней каштуе перасылка.

(Кніжкі азначэные *біс* — выйшлі і лацінскімі і «рускімі» літэрамі.

## IV. Беларускіе тэатральные творы.

Хам. Абраз у 4-х дзеях, Э. Ожэшко . . . . . . . . . — 70
Сватаньне. Жарцік у 1-й дзеі, Чэхова . . . . . . . . — 25
Мядзьведзь. Жарцік у 1-й дзеі, А. Чэхова . . . . . . — 30
Міхалка. Камэдыя у 1 дзеі . . . . . . . . . . . . — 35
Па рэвізії. Абраз у 1 дзеі, Кропіўніцкаго . . . . . . — 35
Пашыліся ў дурні. Жарт Кропіўніцкаго у 3-х дзеях . . — 60
Як яны жаніліся. Жарт у 1 дзеі, А. Володзькаго . . . . — 30
«Паўлінка», камэдыя у 2 дзеях, Я. Купалы . . . . . . — 75
Снатворны мак. Сцэна для дзіцячых тэатроў . . . . . . — 10
Betlejka . . . . . . . . . . . . . . . . . . . — 5

## V. Беларускіе музыкальные творы.

Беларускі песеньнік з нотамі . . . . . . . . . . — 15
Bełaruskie peśni z notami I čaść. Sabraŭ A. Hrynewič . . . . — 30
Bełaruskie peśni z notami II čaść. Sabraŭ A. Hrynewič i A. Ziaziula — 25
Беларускіе песьні разложэные на 4 голасы; адна песьня у 4 галасох 10 к., кожны голас . . . . . . . . . — 3
Чамуж мне ня пець. Ой ляцелі гусі. Дый кудыж ты. Ой пайду я лугам. Ды ўжо сонейка.
біс А хто там ідзе? Я. Купалы, муз. Рогоўскаго . . . . . . — 10

## VI. Гадавікі..

| | | | |
|---|---|---|---|
| Наша Ніва 1906 году | 1 р. — к. | Наша Ніва 1910 году | 3 р. — к. |
| „ „ 1907 „ | 15 р. — к. | „ „ 1911 „ | 3 р. — к. |
| „ „ 1908 „ | 5 р. — к. | „ „ 1912 „ | 5 р. — к. |
| „ „ 1909 „ | 3 р. — к. | „ „ 1913 „ | 2 р. 50 к. |

Календары 1910, 1911, 1912, 1913, 1914 г. па 15 к., 1915 г. па 20 кап., 1916 г. па 15 кап., 1917 г. па 20 кап.

**Вільня, Завальная 7. Беларуская Кнігарня.**

Прысылаючы грошы почтай трэба адрэсаваць так: **Wilnia, Wallstrasse 7, Weisruthenische Buchhandlung, W. Lastowski.**

Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтво «Гоман». Редактар Язэп Салавей.